Дзе адпачыць у Горках?



стр. 3

Мы будем снимать кино



стр. 11

Эўрапейскі марш




стр. 6-10

Горацкая газета

№42

18 кастрычніка 2007

УзГорак

uzgorak.na.by



# Наперадзе - новыя бітвы за ўраджай

На мінулым тыдні ўрад агучыў чарговыя цікавыя лічбы, якія на прост закранаюць інтэрэсы нашага сельгасрэгіёна. Плануецца, што ў наступным 2008 годзе сельскую гаспадарку будзе ўкладзена 3,6 трыльёна рублёў (каля 1,6 млрд. $). Пры гэтым ільвіную долю (1,2 млрд. $) складуць улічваньні з рэспубліканскага бюджэту. Сродк нямалыя. Але што рэальна яны могуць зьмяніць у жыцці простага сяляніна? Практычна ні чога, бо ў масе сваёй гэтыя грошы ідуць не на развіццё, а на падтрыманне ў сёнішнім паўжывым стане нашых калгасаў. Адразу з агучаным лічбам было згадана, што у наступным годзе будуць зьменены падыходы па разьмеркаваньню сродкаў. У прыватнасці, будуць адменены надбаўкі на некаторыя віды прадукцы ўведзены пэўныя абмежаванні на імпарт сельгастэхнікі. Гэтымі заявамі ўрад быццам бы кажа вяскоўцам: “Рыхтуйцеся. Далей будзе яшчэ цяжэй”.

Гэта з аднаго боку. А з іньшага - прызнае крах сваёй палітыкі імпартазамяшчэньня, якую сам так упарта праводзе ў апошнія дзесяць год. Вялізныя мільярды даляраў былі кінутыя ў нашу прамысловасць з надзеей, што калі-небудзь айчынны КСК ці КЗР абгоняць “Джон Діра” ці “Клааса”. Сродкі праелі, справаздачы напісалі. Але як тольк замежныя банкі пачалі крэдытаваць закуп заходняй тэхнікі нашымі калгасамі, усе кінуліся навыперадкі па яе. Эканамічнай выгады амаль ні хто не лічыў, але зразумець любога старшыню калгаса можна. Не маючы патрэбнай колькасьці цьвярозых працаўнікоў, якіх у сваю чаргу ёсць магчымасць матываваць тольк з дапамагаючай “такой - сякой мацеры”, любы кіраўнік здабываючы заходні трактар ці камбайн, маючы вытворчасць працы ў 2 - 5 разоў болей за нашы аналагі, радуецца як дзіця, бо здымае шмат тактычных пытаньняў пастаўленых начальствам (барацьба з ураджаем, рост ВУП т.д). У той жа час стратэгічныя пытаньні (канкурэнтаздольнасць, рост прыбытка заробка) як былі дзесьці за краяглядам, так засталіся. Таму лагічна, што ўрад абмяжоўвае імпарт сельгастэхнікі. Карысьці эканоміцы ад гэтага вялікай няма (бо структурна нічога не зьмяняецца), а праблемы старшыня калгаса іх спакойны сон ня ёсць вялікай каштоўнасьцю для высокага начальства. Тыя ж планы па адмене надбавак сьведчаць аб усё большай канцэнтрацыі эканамічнай улады на месцах у руках вертыкалі. Бо зараз вялікія бюджэтныя сродкі на месцах разьмяркоўвае вертыкаль, якая дзейнічае як той пажарнік. Справы ў калгасах валяцца на ўсіх франтах, раённае начальства, канцэнтруючы вялікія сродкі ў сваіх руках, латае розныя дзіркі. Таму ў новым годзе асноўная частка бюджэтных сродкаў (урад гэта загадзя прадбачыць) пойдзе не на тэхналягічнае абнаўленне, а на падробкі валяшчайся калгаснай сістэме. Таму паважаныя абываецелі, чакаць падвышэньня эфектыўнасці ў нашай сельскай гаспадаркі ў будучым годзе можна толькі на паперы. Рэальна як бы просты сялянін батраком, так і застанецца. Бо для рэальнага пад’ёму вёск патрэбны іншыя падыходы. Возьмеш прыклад суседняй Польшчы. Пасьля ўваходу Эўразьвяз краіна атрымала доступ да вялікіх сродкаў з ягонага бюджэту, накіроўваемых на выраўніваньне рэгіёнаў. Па гэтай лініі польская сельская гаспадарка з 2007 па 2013 год атрымае болей за 60 млрд. эўра субсідый. Але гэтыя сродк будуць ісьці не на падтрымку старой сістэмы (насеньне, салярку, угнаеньне т.д.), а на карэннае пераўзбраеньне і мадэрнізацыю сельскай эканомікі. Гаспадаркі самі пішуць і падаюць пректы ў эўрапейскія структуры там на конкурснай аснове вырашаецца, хто будзе падтрыманы. Таму і сродк трапляюць лепшым, дбайным гаспадаркам, а не як у нас, усім па троху. Толькі ад нас, паважаныя абываецелі, залежыць ці далей мы будзем маўкліва падтрымліваць сёнішні заганны лад, ці паспрабуем узяцца за розум скарыстацца лепшым эўрапейскім досьведам.

*Андрэй Юркоў*



## Колонка редактора

*«...Без Батьки даже картошку не могут перебрать»*
*Новая белорусская пословица*

### ЭХ, АНГЛИЦКАЯ ВЕЩЬ!

«По техническим причинам». Классное, между прочим, объяснение! Не знаю, кто придумал, но – на все случаи жизни, хоть и непонятно про что. На минувшей неделе оно пригодилось и нам. Сорок второй номер газеты, несмотря на отсутствие на рабочем месте редактора (отчет о поездке в Киев – на соседних страницах), был сверстан и подписан в печать своевременно. Но надо же было такому случиться, что именно в эти дни вышла из строя наша «друкарка» и печатать тираж оказалось не на чем, несмотря на все усилия коллектива. Боюсь, что и присутствие «шефа» ситуации бы не изменило, хотя повод для поднятия собственного имиджа (см. эпиграф) теперь появился сам собой.

Надеюсь, читатели нас поймут. Ведь стараниями белорусской власти, газеты, подобные нашей, не имеют доступа к типографиям и вынуждены выкручиваться сами. В основном – получается, хотя, как видим, и не всегда. В среду, когда пишутся эти строки, ремонт «умной машины» все еще не окончен. На ум в этом случае приходит эпизод с поломкой кареты из фильма «Формула любви», а также фраза кузнеца, разбирающего ее при помощи лома (см. заголовок).

Однако, в отличие от графа Калиостро, застрявшего под Смоленском надолго, у нас уже есть запасной вариант выхода, хотя при этом формат газеты немного изменится. Но это, уверены, ненадолго.

В качестве же своеобразной компенсации морального ущерба, нанесенного нашим постоянным читателям, мы в меру своих возможностей немного увеличили объем этого номера и сегодня вы держите в руках 32 полосы формата А4, что соответствует 16 полосам нашего стандартного формата. Обычно, как вы помните, у нас выходит 12-14 полос.

Жизнь продолжается.

*Эдуард БРОКАРЕВ*

# Соревнуются первокурсники

В течение недели в спортивном комплексе БГСХА соревновались студенты 1-х курсов – будущее пополнение в составы сборных команд факультетов и ВУЗа по баскетболу. Наиболее успешно предварительные игры провели первокурсники Зооинженерного факультета, одержавшие победы над командами Гидрофака – 28:26, Агроэкфака – 41:15, и Землеустроительного факультета – победы над БиПфаком – 41:10, Мехфаком – 55:12 и Бухфаком – 25:9.

Финальная игра лучших команд собрала большое количество болельщиков, в основном – первокурсников. Земфаковские болельщики приветствовали своих свою команду лозунгом «Земфак – чемпион!» и не ошиблись. Команда, ведомая ее лидерами В.Мурзовым (набрал 13 очков) и С.Ермоленко (12) с первых минут игры захватила инициативу и повела в счете, победив в первой половине 21:20. Во второй половине их преимущество еще более увеличилось и окончательная победа была убедительной – 35:27.

Основными игроками кроме упомянутых лидеров в команде-победительнице были А.Терещенков, К.Кондаков, О.Бурштын, В.Минин. Честь факультета также защищали К.Коваленко, С.Митюков, И.Мазуров, А.Стельмахов. Неплохую игру показали также финалисты, лидер которых Н.Марков набрал 20 очков. Среди лучших в этой команде также были В.Давыденко (4 очка) и А.Романюк.

Следует отметить, что Мурзов и Давыденко, выпускники СШ №1, в школьные годы занимались в секции баскетбола со студентами БГСХА.

*Владимир ПЕТРОВ*

# Нет плохой погоды

В начале октября на берегу Верхнего озера проводился легкоатлетический кросс в зачет 57-й спартакиады студентов. В соревнованиях приняли участие сборные команды всех факультетов академии и спортсмены Горецкой ДЮСШ. На старт вышел 481 человек.

Перед стартом и вовремя соревнований немного огорчил кроссменов и зрителей дождь. Ох, как нелегко было участникам по скользкой, слякотной трассе! На ум здесь пришли слова популярной песни, утверждающей, что у природы нет плохой погоды.

Первыми стартовали в беге на 500 метров девушки. Лучшее время показала тут Татьяна Семкина (Бухфак) – 1,27 сек. Всего полсекунды уступила ей Наталья Никитенок (Экфак). Третьей финишировала Юлия Касьянова – 1,28 сек.

В беге на 1000м. у девушек первенствовала Анна Крышевич (БиП) – 3 мин. 45 сек., второй была Мая Марченко (Зоофак) – 3,45, третьей – Екатерина Мурашко (БиП) – 4,15.

В беге на 1000м. у мужчин под аплодисменты зрителей первым пересек финишную черту Андрей Лорченко (Агрофак) – 2 мин. 51 сек, вторым – Олег Гайдай (БиП) – 2,35, третьим – Алексей Веренич (Зоофак) – 2,54.

В беге на 2000 м. среди прекрасного пола стартовало 14 человек. Первой с большим отрывом финишировала студентка Агроэкологического факультета Екатерина Роговцова. Ее результат – 8 мин. 01 сек. Юлия Чирская проиграла победительнице 11 сек. У Ольги Ковалевой (Агрофак) – 8 мин. 24 сек.

У мужчин на этой дистанции лучший результат показал Игорь Гордей (Агрофак) – 6 мин. 27 сек, второе место у Дмитрия Рыбака (Агрофак) – 6,27, третье у Евгения Плевко (Агроэк) – 7,06.

Интересным оказался забег на 3000 м, в котором приняли участие 40 мужчин. Победителями стали: Алексей Терещенко (Земфак) – 9,53, Дмитрий Жариков (Агроэк) – 10,01 и Александр Гордей (Экфак) – 10 мин. 21 сек.

В общекомандном зачете уверенную победу одержали кроссмены Агрономического факультета, набравшие 444 очка. На втором месте – спортсмены факультета Бизнеса и Права (415). На третьем – Бухфак (387).

Победителям были вручены были вручены грамоты и ценные призы. Впрочем, свой приз в виде заряда бодрости и хорошего настроения в этот день получил, несомненно, каждый участник кросса.

*Иван КРУГЛИК*

Стадион БГСХА

## ПЕРВЕНСТВО СРЕДИ КУРСОВЫХ КОМАНД

Баскетбольные команды курсов БГСХА начали свои соревнования. Сыграны матчи первого тура: Первый курс – Второй – 44:54, Четвертый – Пятый – 35:26.

Очередные игры – 22 октября (начало в 16.30) и 25 октября (19.00).

## НАСТОЛЬНЫЙ ТЕННИС

А вот академические мастера малой ракетки уже разыграли первенство среди факультетов. Таблица финальной четверки выглядит следующим образом:

| М | Команда | 1 | 2 | 3 | 4 | Очки |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Мехфак | ххх | 4-1 | 4-1 | 4-1 | 3 |
| 2 | Агрофак | 1-4 | ххх | 3-2 | 4-1 | 2 |
| 3 | Бухфак | 1-4 | 2-3 | ххх | 3-2 | 1 |
| 4 | БиП | 1-4 | 1-4 | 2-3 | ххх | 0 |

## КУБОК БГСХА ПО ФУТБОЛУ

Его оспаривают 10 команд.

Мех – Зем – 0:7, ЗИФ – МСФ – 1:1, пенальти – 4:5, Агроэк – Бух – 2:4, БиП – Аспиранты – 5:3, МСФ – Эк – 4:6. Финал состоится 24 октября.

*Соб. Инф.*

Телефон 1-02

## ГАИ

На минувшей неделе в районе зафиксировано 126 нарушений ПДД. Из них было 47 превышений скорости и 57 пешеходов без фликеров. Как рассказывают сотрудники ГАИ, среди последних – в основном студенты, гуляющие как вздумается по академическим улицам.

Следует напомнить, что такие прогулки в темное время суток по проезжей части вне пешеходного перехода чреваты штрафом не менее 3100 руб.

## КАТАЮТСЯ...

В районе д.Добрая водитель-могилевчанин, подвозивший в Горки четырех пассажиров, не справился с управлением и съехал в кювет. Результат – одна из пассажирок с многочисленными ушибами доставлена в больницу.

Еще одно ДТП произошло на ул.Рабочая, где нетрезвый водитель, житель Горок, легковым автомобилем «Форд» «собрал» забор частного дома.

## ТЕРЯЮТ...

За неделю в РОВД поступило пять заявлений об утере мобильных телефонов. Надо ли говорить, что большинство утерявших были в подпитии.

## ВЕШАЮТСЯ...

Сорокалетний житель д.Аниковчи свел счеты с жизнью путем повешения. Мотивы неизвестны.

## ВЫВОЗЯТ...

Могилевчанин, вывозивший в Россию на автомобиле «Жигули» около 800 кг. Лома черного металла в Россию, был задержан, а металл – конфискован.

*Иван Морозов*

ГАЛАСЫ З АКАДЭМІІ

## ДЗЕ АДПАЧЫЦЬ У ГОРКАХ?

**На пытанне «дзе вы хацелі б адпачыць у Горках?» адказвала акадэмічная моладзь.**

**Зміцер, студэнт трэцяга курса аграэкалагічнага факультэта:**

- Для мяне лепшы адпачынак – прагулка са сваей дзяўчынай уздоўж возера.

**Пеця разам з Мікалаем:**

- Лепей за ўсе лішні раз схадзіць на “Парнас”

**Аксана, староста групы:**

- Прабежка па стадыену – што можа быць лепей!

**Зміцер, студэнт аграфака:**

- У мяне няма пастаяннага месца адпачынку, але люблю перакінуцца ў карты, прынамсі – ў дурня.

**Трое студэнтаў заафака:**

- Летам мы ідзем адпачываць з півам на возера, а зімой – у піцэрыю.

**Васіль, першакурснік:**

- Я люблю футбол, але ў зборную акадэміі мяне не ўзялі. У інтэрнаце – сумна, прыйдзецца вучыцца.

**Алег, актывіст БРСМ:**

- Я ў школе удзельнічаў у КВЗ, але тут нешта не завуць. Кажуць, не хапае таленту.

**Ігар, будучы выпускнік:**

- Я прыйшоў сюды вучыцца. Адпачываць буду, калі атрымаю дыплом.

**Алена, цяжарная студэнтка чацвертага курса:**

- Сямейным студэнтам не да адпачынку. Хутка ў нашай сям'і будзе папаўненне, таму на атпачынак спадзяемся толькі пры дапамозе бацькоў. Хаця на дыскатэку схадзіць хочацца.

**Саша, музыка, металіст, фанат:**

- Палац культуры на рамонце, таму цікавых шоў там не прадбачыцца. Будзем нешта прыдумваць самі.

**Валянцін, малады выкладчык:**

- Студэнтам і сапраўды не хапае месцаў, дзе яны могуць расслабіцца. Усе пад кантролем, і таму гэтыя дарослыя дзеці здольныя на разнастайныя выхадкі. Накіраваць іх энергію ў станоўчае русла практычна няма каму.

*Апытваў Кастусь АРШЫЦКІ.*

«Ах, милый Ваня,
Я гуляю по Парижу...»
*Владимир Высоцкий*

# Каб сонца засланіць, вушэй асьліных мала

Осень в Киев не спешит. По картинке - отставание от нашей действительности примерно в две недели, довольно тепло и без дождей. Как и в любом другом мегаполисе, все куда-то торопятся. Переполненное метро привлекает равно как скоростью, так и ценой. Пятьдесят украинских копеек за поездку даже при диких горецких курсах продажи гривны (в Минске украинские «гроші» можно купить по 455, в Орше – по 430) «в переводе» означают никак не более 250-260 руб. На тесноватых старых станциях особенно в часы пик - серьезная давка. Бывает, что до турникета добираешься мелкими шажками и затем выстаиваешь длинную очередь на эскалатор. При этом люди доброжелательны, не слышно ни перебранок, ни даже мата. Поезда переполнены, то и дело следуют просьбы по радио освободить двери и побыстрее заканчивать посадку. И вагоны и станции – сплошь в рекламе. Кредиты за один час... пиво «Черниговское»... требуются менеджеры – зарплата от 1500 гривен – этих особенно много, видимо, на такую зарплату менеджеры не клюют...

На улицах мало «державніх» автобусов и троллейбусов (проезд - те же 50 коп.) и множество частных маршруток - в подавляющем большинстве это знакомые нам желтые «Богданы». Проезд в них хоть и стоит, как минимум, вдвое дороже (1-1,75гр.), но и они всегда переполнены. Не забудем, что это Киев – столица. Для сравнения - в Минске маршрутки возят за 1500, а метро и гостранспорт берет с пассажира по 600 руб. При этом в Киеве даже бабушки на остановках не ждут «халявного» автобуса, а садятся в маршрутку и едут. Остановки - по требованию. Во всех маршрутках висит постановление горисполкома, гласящее, что городской транспорт (даже автобусы) может останавливаться в местах, где это не запрещено правилами движения. И ничего - останавливаются. Людям удобно и перевозчикам - деньги. Заметно, что они у народа здесь есть, и те, кто хочет, заработать их в состоянии – государство, как минимум, не мешает. На вопросы о заработке большинство отвечает неохотно, добавляя затем: «Но это – официально». Даже уборщица в парикмахерской (формальный оклад – 200 гривен в



**В этом скромном коттедже и располагается Международная общественная организация "Интерньюз-Украина"**

месяц) загадочно улыбается. Дескать, чаевые перепадают, кто даст рубль (многие так называют гривну), кто – два... Таксист, работающий на хозяина, получает в Киеве 1000 долларов, в райцентре Золотоноша Черкасской области – 1000 гривен. У входов на станциях метро везде приглашают продавцов телефонных карточек и прочей мелочевки. Зарплата от 100 гривен в день.

Уличная торговля развита по всему городу. Никто никого не гоняет - на тротуарах, перекрестках, остановках, множество лотков, палаток, которые торгуют уже с 7-8 утра и сворачиваются с наступлением темноты. Как результат – грязновато, но порядок поддерживается, хотя и без фанатизма. В то же время – характерного постсоветского нытья о тяжелой жизни тоже немало. На остановках ворчат о переполненном транспорте, в автобусах поругивают власть.

Столь любимые нашим БТ бомжи в самом деле наличествуют (посмотришь сюжет, особенно, если в нем присутствует нечто про Ющенко – и кажется, что полстраны там копается в мусорках), но таковых - единицы. Кормятся возле вокзала, на базарчиках, иногда просят деньги в переходах (в основном древние бабушки). Отношение к ним у простых людей снисходительное, дескать, кто крутится – тот всегда заработает, а это – алкаши и лодыри. В тех же переходах - музыканты, на Крещатике мальчишка лет десяти играет на скрипке. У некоторых – электроаппартура, видно, что работают не первый день. В лежащих у ног футлярах – не только мелочь, но и купюры с нулями. Власть этих людей как минимум не трогает, поскольку те у нее ничего не просят, а народ подает охотно – в Украине трудяг уважают.

Пригласившая нас Международная общественная организация «Интерньюз-Украина»

- наиболее крупная из тех, кто в своей стране занимается реализацией международных программ по развитию прессы. Уточню, что понятий «залежная» и «незалежная» там нет. Просто – прессы. Проект, в рамках которого мы учимся, имеет название «У-Медиа» и проводится в партнерстве с «Интерньюз-Нетворк», который финансируется (не в Беларуси будь сказано) USAID – Агентством США по международному развитию.

Цель проекта – развитие гражданской журналистики. Это как раз про нас и наших коллег. Имеются в виду люди без специальных дипломов, которые хотят выпускать собственные издания. Во всем цивилизованном (за исключением отдельных заплутавших в идеологических джунглях островков) мире признано, что такие проекты зачастую бывают весьма успешными и создают серьезную конкуренцию авторитетным «таймсам». При этом их трудно прикормить и контролировать, что дает возможность работать по известному принципу азиатских акынов: «Что вижу – то пою».

Чтобы не возвращаться к теме, сразу же отвечу потенциальным разоблачителям, которых начиная с 1937-го года заклинило на теме оплаченного шпионажа в пользу гадов-капиталистов. Их способы наведения тени на белый день неоднократно описаны классиками литературы, включая незабвенного белоруса Кадрата Крапіву. Проснитесь. Во всем мире (за исключением уже упомянутых островков) является нормальной практикой поддержка своих своими. То есть, коллеги с большими (ударение можете ставить и на первом и на втором слоге) возможностями помогают тем, у кого этих возможностей меньше. При этом речь не идет о «мешках баксов», тайно перевозимых через границу. Зарубежные коллеги дают нам ВОЗМОЖНОСТИ, подтягивая до уровня, являющегося для них нормальным.

Среди партнеров наших украинских коллег есть и частные фонды, и правительственные «институцiї», и международные организации. Глава правления «Интерньюз-Украина», Константин Квурт, является членом Национальной комиссии по утверждению свободы слова и развитию медиа-пространства, созданной в качестве консультативного органа Президентом Украины Виктором Ющенко.

Еще в начале XXI века подобные проекты существовали в Беларуси, в том числе работа по ним шла и в Горках. «Айрекс про медиа», «Каунтерпарт фор партнершип» - горецким общественным активистам эти названия наверняка знакомы. Да и в райисполкоме времен Владимира Долженкова с их представителями общались неоднократно, организовывали совместные проекты... Увы, ситуация со свободой слова в нашей стране с той поры круто пошла под откос, и все подобные программы наше правительство свернуло, имея, похоже, в виду, что «Советская Белоруссия» - лучшая общественно-политическая газета, и нечего тут...

Хотя даже первые результаты, полученные тогда в результате сотрудничества, до сих пор приносят определенную пользу. Благодаря поддержке «Айрекса» закрепилась на информационном рынке «Регионалка», Проводившиеся «Каунтерпартом» пресс-клубы дали импульс началу нашего «УзГорка», а тренинги и семинары помогли найти себя многим местным общественным активистам.

Обучение проходит в прекрасном офисе, где имеется достаточное количество техники, а к проведению тренинга привлекаются специалисты, работающие на весьма и весьма солидном уровне. Достаточно сказать, что человек, проводивший занятия по фото- и видеосъемке, является главным оператором в одной из ведущих телекомпаний своей страны. Участники тренинга – в основном молодые ребята, работающие в разных сферах информационного пространства и стремящиеся развиваться, несмотря и вопреки. Надо ли говорить, что в «СБ» и прочих «чэсных» изданиях стройными рядами (где шаг вправо-влево – побег) шагающих шляхом в никуда, большинству из них будет тесно и захочется чего-то большего, нежели сводки о битвах с урожаем. Благо, существующие ныне технологии позволяют многократно усилить снова ставшую в нашей стране актуальной фразу уже упоминавшегося Кондрата Крапивы, которая так и просилась в заголовок.

**И в заключение – предложение для читателей. МЫ БУДЕМ СНИМАТЬ КИНО. Редакция газеты «УзГорак» в партнерстве с МОО «Интерньюс-Украина» объявляет конкурс тем, сценариев, идей для короткометражных видеофильмов на социальную тематику. Если можете снять что-то сами – снимайте. Хотите предложить сценарий, сюжет, тему, идею – предлагайте. Желающие могут побывать в шкуре режиссера, оператора, монтажера. Техника и специалисты в редакции есть. При этом, Ваш возраст и социальное положение значения не имеют. Ждем.**

*Эдуард БРОКАРЕВ*

# НА УЛИЦАХ КИЕВА

**Корреспондент нашей газеты спрашивал прохожих:**
**Что первое Вам приходит в голову, когда Вы слышите о Беларуси?**

**Валентина, прохожая с большой сумкой:**
- Лукашенко и хорошие дороги.

**Валентина Александровна, пенсионерка:**
- Я очень уважаю вашего президента.

**Анатолий, менеджер по продажам:**
- Тракторы. Я сам из села и часто там их видел.

**Евгений, студент университета:**
- Камеди-клаб. И там хорошо играют в футбол.

**Марина, педагог:**
- Природа красивая и люди приятные

**Людмила, медсестра:**
- Я знаю, что ваша страна более чистая, чем Киев и вообще Украина. Нет этих ужасных плакатов на каждом углу. И вообще ваш президент лучше нашего.

**Юра, мужчина в рабочей одежде:**
- Лукашенко, беспредел, неудавшаяся революция в прошлом году.

**Людмила, пенсионерка:**
- У меня родственники в Беларуси, они довольны своей жизнью. Получают хорошую пенсию.

**Олег, водтель приличного «Фольксвагена»:**
- Картошка, что же еще?

**Аня, студентка:**
- Наша страна самая классная, а о Беларуси ничего не знаю – не интересуюсь.

**Юрий, предприниматель:**
- Нам бы порядок такой, как там...

**Александр, художник:**
- Ансамбль «Песняры»

**Валентина Григроьевна, заместитель директора коммунального предприятия:**
- Я там не была, но знаю, что дороги там лучше, чистота. И сосед говорил, что если там на пешеходном переходе, не дай Бог, водитель не пропустил пешехода, то до следующего перекрестка он может не доехать – получит огромный штраф.

**Владимир, солидный мужчина, вышедший из банка и садящийся в Джип-Лендкрузер:**
- Сожаление.

*Беседовал Эдуард БРОКАРЕВ*

**ЧАТЫРНАДЦАТАГА КАСТРЫЧНІКА Ў МЕНСКУ АДБЫЎСЯ ЭЎРАПЕЙСКІ МАРШ. ГЭТА БЫЛА АДНА З АКЦЫЯЎ АПАЗЫЦЫІ, СКІРАВАНАЯ НА ЗГУРТАВАНЬНЕ ПРЫХІЛЬНІКАЎ ЭЎРАПЕЙСКАГА ШЛЯХУ ДЛЯ БЕЛАРУСІ, А ТАКСАМА – ІНФАРМАВАНЬНЕ НАСЕЛЬНІЦТВА ПРА ВЫГОДЫ, ЯКІЯ МОЖА ДАЦЬ НАШАЙ КРАІНЕ ПРЫНЯЦЬЦЕ ПРАПАНОВАЎ ЭЎРАЗЬВЯЗУ. АБ ПОСЬПЕХАХ І ХІБАХ НА ШЛЯХУ МАРША ВЫ МОЖАЦЕ ДАВЕДАЦЦА НА НАСТУПНЫХ СТАРОНКАХ, ДЗЕ ВЫКАРЫСТАНЫЯ МАТАР'ЯЛЫ ЗЬ НЕЗАЛЕЖНЫХ БЕЛАРУСКІХ СМІ.**

## ЕЎРАПЕЙСКІ МАРШ ІДЗЕ ПА ГАЛОЎНЫМ ПРАСПЕКЦЕ СТАЛІЦЫ

Удзельнікі Еўрапейскага марша выйшлі калонай ад Кастрычніцкай плошчы і рухаюцца ў бок Акадэміі навук. Колькасць маніфестантаў увесь час расце. Зараз іх каля 5 тысяч чалавек.

## ВЫСТУП АЛЯКСАНДРА МІЛІНКЕВІЧА ПЕРАД УДЗЕЛЬНІКАМІ ЕЎРАПЕЙСКАГА МАРША

Грамадзяне Беларусі!

Сёння мы прайшлі маршам. Сёння мы перамаглі страх.

Страх – ён як іртуць. Ён разліты па нашай краіне. Ён атруціў нашы душы.

Але мала перамагчы страх адзін раз.

Нам трэба раз за разам выходзіць на цэнтральныя праспекты і дэманстраваць сваю любоў да Айчыны, волю да Свабоды, свой выбар еўрапейскага шляху развіцця.

Маніфестацыі — самы эфектыўны спосаб барацьбы за свабоду. Седзячы ў хаце — нічога не даб'емся. Трэба выходзіць! Столькі, колькі спатрэбіцца, каб вызваліць саміх сябе і наш народ. Няма іншай рады. Свабоды трэба дамагчыся, яе трэба заслужыць. Так рабілі іншыя народы Еўропы.

Прэч сумневы, у адзінстве сіла!

Улады затрымалі дзясяткі людзей у сталіцы і ў рэгіёнах, бо ўздыму рэгіёнаў яны найбольш баяцца,. Улады смяротна баяцца масавасці маніфестацый. Але гэтыя людзі душою і думкаю з намі.

Яны - з намі, мы – заадно! Жыве Беларусь!

Дзяўчаты і хлопцы! На вас, наша моладзь, надзея! Слухайце сваё сумленне, рабіце дабро і нічога не бойцеся.

Сябры Беларусі з розных краінаў Еўропы прыехалі 14 кастрычніка ў Мінск. Дзякуй ім!

Звяртаюся і да тых, хто яшчэ не адолеў страх, хто яшчэ не ачысціўся ад іртуці хлусні. Мы адна нацыя. У нас роўныя правы і супольная будучыня. Мы — еўрапейцы! Мы — гаспадары дзяржавы, мы — крыніца ўлады. Падтрымайце еўрапейскі выбар для Беларусі! Гэта адзіны шлях да здароўя нашых унукаў, добрае адукацыі для дзяцей, дабрабыту, які адбудавалі ўжо сабе іншыя нацыі Цэнтральнай Эўропы.

Ад свабоды выйграюць усе. Нават тыя, хто цяпер яе баіцца.

Мы - цэнтральнаеўрапейцы! І мы кажам – жыла і жыве Беларусь!

## АЛЯКСАНДР МІЛІНКЕВІЧ НА БАНГАЛОР НЕ ІДЗЕ

Лідэр дэмакратычных сіл Беларусі Аляксандр Мілінкевіч адмовіўся ісці на Бангалор. Як і напярэдадні правядзення Еўрапейскага маршу палітык заявіў, што палітычная частка мерапрыемства павінна адбыцца толькі ў цэнтры сталіцы. Каля Акадэміі навук да Аляксандра Мілінкевіча падыходыйшоў супрацоўнік УУС Мінска Найдзенка і прапанаваў, яму як арганізатару, узначаліць калону, якая рухаецца на Бангалор. Мілінкевіч адмовіўся.

- Я згодны з маладымі патрыётамі, што сваю палітычную волю беларусы павінны выказваць у цэнтры сталіцы. Таму палітычная частка Еўрапейскага маршу мае скончыцца менавіта каля Акадэміі навук.

## А.МІЛІНКЕВІЧ: 14 КАСТРЫЧНІКА МЫ ПАКАЗАЛІ, ШТО МЫ МОЦ

Дарагія суайчыннікі!

Шчыра ўдзячны кожнаму з Вас, хто ў чарговы раз праявіў асабістую мужнасьць, прысвяціўшы нашай Беларусі і справе еўрапейскага выбару дзень 14 кастрычніка.

Мы даказалі, што ў Беларусі ёсць людзі, адданыя нашай Айчыне і гатовыя бараніць яе нацыянальны інтарэс.

Удзячны таксама еўрапейскім палітыкам і дыпламатам за сталую ўвагу да Беларусі і падтрымку нашай барацьбы за Свабоду і еўрапейскую будучыню Беларусі.

14 кастрычніка мы адваявалі сабе частку грамадскай прасторы, мы паказалі, што мы моц і таму ўлада была вымушаная лічыцца з намі ды ісці на саступкі. Але не забывайма пра дзесяткі затрыманых і няспраўядліва асуджаных напярэдадні Еўрапейскага маршу, не забывайма пра палітычных вязняў і сістэму палітычнага пераследу, навязаную беларускаму грамадству.

Мы на самым пачатку нашага шляху ў аб'яднаную Еўропу. Гэты шлях палягае на нашай большай адказнасці і волі беларускай грамадзянскай супольнасці.

Мы патрабуем ад улады выканання 12 ўмоваў Еўразвязу, паколькі выкладзеныя там крокі адпавядаюць інтарэсам кожнага грамадзяніна Беларусі. Мы патрабуем пачатку роўнага і ўзаемапаважлівага дыялогу ўлады з незалежным грамадствам.

Мы не адны. Нас шмат у нашай краіне, у нас вялікае кола добрых сяброў па ўсім свеце, з намі Бог, дух продкаў, наша вера і прага да Свабоды. Толькі еўрапейская Беларусь мае будучыню як дзяржава, як нацыя свабодных і заможных людзей

## ЕЎРАПЕЙСКІ МАРШ У ВІЦЕБСКУ

Рух "За свабоду" падаваў заяўку на правядзенне маршу ў Віцебску. Замест прыхільнікаў руху "За Свабоду" на цэнтральнай плошчы Свабоды стаяў мікрааўтобус са спецназам, вакол якога шпацыравалі людзі ў форме. Некалькі групаў у цывільным занялі пазіцыі ва ўсіх кутках пляцу. Патрулі міліцыянтаў атабарыліся вакол чакаемага месца падзеяў.

- Сёння вакол плошчы Свабоды, дзе звычайна збіраюцца прадстаўнікі віцебскай апазіцыі, былі сабраны, відаць усе, хто не пільнаваў Паўла Севярынца, Алену Фаміну, і іншых актывістаў, -распавяла актывістка Руху "За Свабоду" Таццяна Севярынец.

Нягледзячы на гэта актывісты змаглі зладзіць інфармацыйную акцыю ў іншых месцах горада.

- Балонікі, валошкавага колеру стужачкі, якія абвівалі дрэвы, інфармацыя для жыхароў аб еўрапескім шляху развіцця, што раздавалі ў цэнтры горада--так Віцебск далучыўся да Мінску, - адзначыла Таццяна

# На Эўрапейскі? Марш!

**Мы ўжо неаднаразова пісалі пра прэвэнтыўныя арышты, якія напярэдадні Эўрапейскага маршу ажыцьцяўлялі беларускія "ахоўнікі парадку". Сеньня распавядзем пра гэта на асобным прыкладзе нашага калегі з Магілева, пра які ў сваіх рэпартажах паведаміла Радые Свабода. Храналёгія падзеяў вытрыманая.**

## МАГІЛЁЎ: УНАЧЫ ЗАТРЫМАЛІ ЗЬМІТРА САЛАЎЁВА

12 кастрычніка.

Намесьніка старшыні гарадзкой арганізацыі партыі БНФ Зьмітра Салаўёва затрымалі блізу першай гадзіны ночы каля гатэлю "Магілёў". Непадалёк ад гатэлю ён жыве.

Ноч З.Салаўёў правёў у ізалятары часовага ўтрыманьня.

Дзяжурны Ленінскага аддзелу міліцыі Магілёва паведаміў праваабаронцу Барысу Бухэлю, што Зьмітра Салаўёва затрымалі нібыта за хуліганства.

Сёньня над грамадзкім актывістам адбудзецца суд.

## ЗЬМІТРУ САЛАЎЁВУ ДАЛІ ПЯЦЬ СУТАК

13 кастрычніка.

Ленінскі суд Магілёва пакараў намесьніка старшыні гарадзкой суполкі партыі БНФ Зьмітра Салаўёва пяцьцю суткамі адміністрацыйнага арышту. Судзьдзя Ірына Сарока прызнала яго вінаватым у зьдзяйсьненьні адміністрацыйнага правапарушэньня. Паводле пастановы, ён нібыта спраўляў патрэбу на вуліцы Крыленкі, у цэнтры гораду.

Суд над актывістам праходзіў з адвакатам, дамову зь якім заключыла ягоная жонка Надзея. Абвешчаны ўчора ў судзе перапынак Зьміцер Салаўёў правёў у ізалятары часовага ўтрыманьня. Ён сядзеў у камэры адзін.

Сёньняшняе судовае паседжаньне доўжылася амаль чатыры гадзіны.

Судзьдзя сфармулявала вырак на падставе паказаньняў сьведкаў, якія ёй падаліся больш праўдападобнымі. У суд не зьявіліся міліцыянты з роты хуткага рэагаваньня, якія затрымлівалі Зьмітра Салаўёва. Міліцыянты Крывулін, Астапаў ды Драздоў тэрмінова выехалі ў службовую камандзіроўку ў Менск.

Супраць актывіста сьведчылі двое маладых людзей: судовы выканаўца гаспадарчага суду Аляксандар Гладкі, ды будаўнік фірмы "Армстрой" Андрэй Гладынец. Абодва, нібыта, бачылі як актывіст зьдзяйсьняе правапарушэньне.

Гладкі і Гладынец а палове на дванаццатаю ночы пілі безалькагольнае піва на дзіцячай пляцоўцы каля дома, дзе затрымалі Зьмітра Салаўёва.

Паказаньні сьведкаў абвінавачваньня ў судзе супярэчылі таму, што яны пісьмова тлумачылі ў міліцыі. Адвакатка Зьмітра Салаўёва назвала такія паказаньні "выбарачнай памяцьцю". Сьведкі бачылі, што Салаўёў робіць, але дакладна не маглі апісаць таго месца, дзе яны знаходзіліся. Ня здолелі яны апісаць і затрыманьне, бо яно ў іх ня выклікала цікавасьці.



Нягледзячы на рэпрэсыі, Зьміцер ня страчвае аптымізму адносна эўрапейскай будучыні Беларусі

Судзьдзя не зьвярнула на ўвагі на супярэчнасьці, аднак зазначыла, што паказаньняў сьведак абвінавачваньня дастаткова, каб прызнаць Зьмітра Салаўёва вінаватым.

Вырак суда адвакатка назвала не аб'ектыўным і надуманым.

Зьміцер Салаўёў вінаватым сябе не прызнаў. Затрыманьне і прысуд, ён лічыць палітычна матываванымі. "Усё зроблена, каб я не патрапіў на "Эўрапейскі марш", зазначыў "Свабодзе" па сканчэньні суда Зьміцер Салаўёў.

## ЗЬМІЦЕР САЛАЎЁЎ НА ВОЛІ

17 кастрычніка

А палове на першую ночы выйшаў на волю намесьнік старшыні Магілёўскай суполкі Партыі БНФ Зьміцер Салаўёў. У ізалятары часовага ўтрыманьня ён адседзеў пяць сутак адміністрацыйнага арышту.

Зьмітра Салаўёва ля ізалятара часовага ўтрыманьня сустракалі тры дзесяткі паплечнікаў. Дома Зьмітра чакала жонка Надзя і трох гадохгадовая дачка Ялінка.

Зьміцер Салаўёў большую частку пакараньня адбыў у камэры адзін. Зрэдку да яго падсаджвалі аднаго-двух чалавек. Усе пяць сутак ён адмаўляўся ад ежы, піў толькі мінэральную ваду. Шмат чытаў. Некаторыя міліцыянты прасілі ў яго пачытаць "што-небудзь з апазыцыйнага".

12 кастрычніка Зьмітра Салаўёва затрымаў нарад міліцыі хуткага рэагаваньня. 13 кастрычніка судзьдзя Ленінскага суда Магілёва Ірына Сарока прызнала Зьмітра Салаўёва вінаватым у адміністрацыйным правапарушэньні.

## У СЕРАДУ, 17 КАСТРЫЧНІКА, НА ВЭБ-САЙЦЕ РАДЫЁ СВАБОДА АДБЫЛАСЯ ОНЛАЙН-КАНФЭРЭНЦЫЯ З АДНЫМ З АРГАНІЗАТАРАЎ "ЭЎРАПЭЙСКАГА МАРШУ", ЯКІ АДБЫЎСЯ 14 КАСТРЫЧНІКА, НАМЕСЬНІКАМ СТАРШЫНІ ПАРТЫІ БНФ ВІКТАРАМ ІВАШКЕВІЧАМ.

**Паважаны Віктар! Тоя што моладзь бунтуе - гета нармальна. але ня добра. што ты і ншыя "дзядзкі" не змаглі растлумачыць, дамовіцца. аб падзеле працы з моладзю.Бо найперш. такі была мала інфармацыі нават у мікраёнах Менску.Як заўсёды большасьць "прадукцыі" засталося ляжаць. Ці не лічыце, што трэба шукаць новыя падыходы да матывацыі па інфармаваньню насельніцтва і больш пераканаўчай агітацыі насельніцтва ? Чаму і зараз няма малых мабільных генератараў ( і некалькі) электрычнасьці? Я сам бачыў вельмі малыя генерататары на вуліцаў, у музыкаў. Дзе тыя мільёны далляраў і эўра, пра якія гаворыць Дэпартамент ЗША і эўрапейскія чыноўнікі? Якая прычына галоўная нежаданьня ісьці на дазволенную акцыю: страх, сацыяльная лянота, ці грэбаваньне апазыцыяй у комплексе?**

Наконт моладзі, зь якой не ўдалося дамовіцца. Памылка арганізатараў была ў тым, што мы не надалі належную ўвагу сваёй дружыне, якая б спыніла тыя дзеяньні, якія ішлі ўразрэз сцэнару. Таксама была мая памылка, што я пагадзіўся з Мілінкевічам праводзіць мітынг ля Акадэміі навук. Гэты мітынг разваліў мерапрыемства, у выніку чаго зьявіліся некалькі калён. А сам мітынг быў скамечаны. Трэба мне было не зважаць на лямант тых, хто казаў "На Бангалор не пайду", ставіць апаратуру ў парку Дружбы народаў і ўсіх накіраваць туды, пакінуўшы "радыкалам" ужо пасьля афіцыйнага мітынгу гуляць па горадзе там, дзе б яны пажадалі.

Наконт распаўсюду прадукцыі. Ва Ўправе БНФ нічога не засталося ляжаць, усё было раздадзена валантэрам. Іншая справа, што пасьля таго, як пачаліся затрыманьні, арышты за распаўсюд матэрыялаў пра марш, рэзка скарацілася колькасьць тых, хто гатовы быў распаўсюджваць агітацыйную прадукцыю.

Наконт мільёнаў даляраў і эўра, пра якія амэрыканскія і эўрапэйскія чыноўнікі, то гэтыя грошы ідуць на ўтрыманьне эўрапэйскіх чыноўнікаў.

Што тычыцца прычыны, чаму людзі не пайшлі на дазволеную акцыю – думаю, тут, сапраўды, і страх, і лянота, і нявер у тое, што можна штосьці зьмяніць.

**Як вы лічыце, як да вас можа ставіцца моладзь?**

Моладзь ёсьць розная. Ёсьць БРСМ, ёсьць наркаманы. Ёсьць Моладзь БНФ. Іх паводзіны абсалютна рознае. І іх стаўленьне да апазыцыі гэтаксама рознае.

**Калі вы нарэшце зьнікніце разам са сваім шэфам Вячоркам з палітычнай сцэны ў Беларусі, ды кінеце людзям тлуміць галовы сваімі прафанацыямі?**

Тады, калі знойдуцца тыя, хто будзе браць на сабе адказнасьць дзейнічаць замест нас і лепш за нас.

**Як вы ставіцеся да пабудовы атамнай электрастанцыі на Беларусі?**

Я асабіста – супраць. Бо лічу нашмат больш эфэктыўна патраціць тыя мільярды эўра, што могуць пайсьці на будаўніцтва АЭС, на ўкараненьне энэргазьберагаючых тэхналёгій.

**Хіба ізноў атрымалася як у байцы пра лебедзя, шчупака і рака? Кожны з лідэраў цягне коўдру на сябе?**

Тое, што ёсьць памкненьне лідэраў цягнуць коўдру на сябе – гэта факт, але мне, як старшыні Аргкамітэту, ўдалося дамагчыся, каб цягнулі яны ў адным накірунку. Усе палітычныя лідэры выступілі ў падтрымку Эўрапэйскага маршу і ўзялі ў ім ўдзел. Але, натуральна, арганізацыйныя моманты трэба мацаваць і паляпшаць.

**Виктор, за счет каких средств живете Вы и Ваша семья? Вы не пробовали трудоустроиться в Беларуси?**

Мая жонка журналістка, мой сын вучыцца і займаецца бізнэсам, я працую на Беларусі партыйным функцыянэрам.

**Виктор, когда Организаторы "Марша" приглашают делегатов из Европы, кто оплачивает расходы на их пребывание в Беларуси и транспортные расходы? Европейцы сами все оплачивают или Организаторы оплычивают пребывание?**

Эўрапэйцы аплочваюць усё самі.

Беларуский партизан сообщил, что 15 оппозиционеров поедут в ПАСЕ на 2 дня. Это будет стоить 30 тысяч евро за счет средств приглашающей строны. Какова эффективность такой поездки?

Эфэктыўнасьць замежных паездак выяўляецца ў цьвёрдай пазыцыі Эўразьвязу па тых дванаццаці прапановах, якія зробленыя беларускаму ўраду. Што, ў сваю чаргу, непасрэдна паўплывала на тое, што 14 кастрычніка АМАП не разагнаў маніфэстацыю апазыцыі.

**Виктор, как Вы оцениваете шансы Сидорского возглавить оппозицию в ближашие месяцы? Если Сидорский заявит, что он готов провести перемены готова ли будет оппозиция поддержать Сидорского?**

Я асабіста, як старшыня Аргкамітэту, настойваў на тым, каб апазыцыя заклікала здаровыя сілы ва ўрадзе і ў адміністрацыі прэзыдэнта пайсьці на дыялёг з дэмакратычнымі сіламі. Я быў бы вельмі рады, калі б і Сідорскі, і Пяткевіч, і Пракаповіч зразумелі неабходнасьць рынкавых і дэмакратычных рэформаў і выступілі за рэалізацыю дванаццаці прапановаў Эўразьвязу.

**Кем Вы себя видите в новом правительстве после смены в власти?**

Я бачу сябе дэпутатам у парлямэнце. На пасады ва ўрадзе ў нас ёсьць сьпіс вельмі якасных спэцыялістаў.

**Які Ваш любімы анэкдот ці показка? Гэта характарызуе чалавека, таму й пытаюся.**

Скажу не анэкдот, а прытчу. Адзін чалавек вельмі верыў у Бога. Калі пачалася паводка ў ягонай вёсцы, ён залез на дах свайго дома і пачаў маліць Бога аб выратаваньні. Калі міма праплывалі чоўны, яго запрашалі да сябе, ён адмаўляўся, бо верыў, што яму дапаможа Бог. Калі ж ён патануў і патрапіў на нябёсы, Бог яму сказаў: "Які ж ты дурань! Я ж табе тры разы човен пасылаў!". Я вельмі ўважліва стаўлюся да тых зьнешніх штуршкоў, разглядаючы ў іх магчымы човен, якім я павінен скарыстацца.

**На чым грунтуецца Ваш аптымізм? Толькі не абмяжоўвайцеся, калі ласка, адказам, што на веры ў Бацькаўшчыну:)**

Аптымізм мой базуецца на тым, што я не хачу скончаць жыцьцё самагубствам. Бо калі ня верыць у лепшае, тады няма сэнсу жыць.

**Чаму арганізатары Марша не падтрымалі моладзь, якая рухалася па праспекце, а вырашылі пайсці таптаць сабачыя какашкі? Ужо проста задалбала безсэнсоўнае бадзянне з Акадэміі Навук да плошчы Бангалор!!!**

Пасьпяховасьць таптаньня на Бангалоры ці каля Нацыянальнай бібліятэкі павінны ацэньвацца з пункту гледжаньня эфэктыўнасьці

